www.nv-online.info

№ 97 (4042)

11 снежня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

***Калі ты прагнеш лепшай долі — Дапамажы «Народнай Волі». У свеце праўды жыць імкніся — І на газету падпішыся!***



Нагадаем: аформіць падпіску на першую палову 2016 года можна ў любым паштовым аддзяленні, а мінчане маюць яшчэ магчымасць зрабіць гэта і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку". У шапіках Вашы экзэмпляры газеты будуць чакаць Вас нават тады, калі Вы з'едзеце, скажам, у камандзіроўку, на адпачынак альбо на лецішча.

Маеце нагоду падрыхтаваць падарунак для бацькоў, сваякоў, сяброў, саслужыўцаў? Што ж, лепшы сюрпрыз – падпісны квіток на "Народную Волю". І на любы тэрмін – на паўгоддзе, на квартал, на месяц.

Разам пашырым кола прыхільнікаў "Народнай Волі".

## З 6 снежня працягваецца Нобелеўскі тыдзень у Стакгольме.

**Учора беларускай пісьменніцы Святлане Алексіевіч «за шматгалосае гучанне яе прозы і ўвекавечанне пакут і мужнасці» была ўручана найвышэйшая прэмія.**

**Віншуем, Святлана Аляксандраўна!**









БЕЛАРУСЬ–ЕС

Гунар ВІГАНД:

## «Еўропа гатова падпісаць з Беларуссю пагадненне аб спрошчаным візавым рэжыме»

Пра гэта намеснік кіраўніка Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Гунар Віганд заявіў падчас брыфінгу для журналістаў, які адбыўся ў памяшканні прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі ў Мінску.

Цяперашні двухдзённы візіт пачаўся з сустрэч у беларускім МЗС.

*"Падчас сустрэчы з намеснікам міністра замежных спраў Беларусі Аленай Купчынай мы ўзгадніпі так званы парадак мадэрнізацыі,* – паведаміў дыпламат. – *У ім сем тэматычных накірункаў: прыватызацыя і прадпрымальніцтва, гандаль і інвестыцыі, транспарт, энергетыка, сацыяльнае развіццё і правы чалавека, навакольнае асяроддзе. Па ўсіх гэтых накірунках мы вызначылі прыярытэтныя дзеянні, якія павінны быць зроблены ў межах развіцця адносін паміж Беларуссю і ЕС".*

Акрамя сустрэчы ў МЗС Гунар Віганд правёў перамовы ў Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі і Міністэрстве эканомікі нашай краіны. Яны тычыліся магчымасці прыняцця Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю.

*"Мы знаходзімся на шляху пакрокавага паляпшэння стасункаў паміж Рэспублікай Беларусь і Еўрапейскім Саюзам. Гэта звязана з дзвюма акалічнасцямі: вызваленнем палітвязняў у Беларусі і часовым прыпыненнем санкцый ЕС супраць некаторых беларускіх чыноўнікаў",* – адзначыў афіцыйны прадстаўнік аб'яднанай Еўропы.

Акрамя таго, ён паведаміў, што ў будучым годзе Еўрасаюз падвоіць фінансавую дапамогу Беларусі для рэалізацыі некаторых сумесных праграм нашай краіны і ЕС. З пачатку гэтага тыдня ў Мінску працуе місія экспертаў, якія вызначаюць прыярытэтныя напрамкі супрацоўніцтва на 2016 год. *"Сярод іх: рэгіянальнае развіццё, развіццё малога і сярэдняга бізнесу, мабільнасць і міграцыя, а таксама дапамога ў вырашэнні эканамічных пытанняў",* – паведаміў дыпламат.

Адказваючы на пытанне, якіх сустрэчных крокаў афіцыйны Брусель чакае ад беларускага боку, спадар Віганд падкрэсліў, што неўзабаве будуць апублікаваны два дакументы – фінальная справаздача БДІПЧ АБСЕ па выніках апошніх прэзідэнцкіх выбараў, а таксама штогадовая справаздача Савета ААН па правах чалавека. Дыпламат лічыць, што беларускія ўлады павінны прыслухацца да тых высноў, якія будуць там утрымлівацца. Ён нагадаў толькі пра некалькі з іх – змену выбарчага заканадаўства, спрашчэнне рэгістрацыі палітычных партый і адмену смяротнага пакарання.

Закрануў Гунар Віганд і пытанне спрашчэння візавага рэжыму паміж Беларуссю і краінамі Еўрасаюза. Ужо не першы год цыркулююць чуткі, што кошт шэнгенскай візы для беларусаў можа быць зніжаны, а сам парадак яе атрымання спрошчаны. Пра гэта гаворыцца так доўга, што мы ўжо стаміліся чакаць. Вось што наконт гэтага сказаў еўрапейскі дыпламат:

*"Еўрапейскі Саюз гатовы падпісаць з Беларуссю пагадненне аб спрошчаным візавым рэжыме. Тэкст пагаднення фактычна гатовы, мы можам парафіраваць яго і далей падпісаць. Адзінае, што пакуль замінае, гэта тое, што беларускія дыпламатычныя пашпарты павінны адпавядаць тым самым патрабаванням, што і звычайныя пашпарты. Гэта значыць, яны павінны адпавядаць высокім патрабаванням у сферы бяспекі. І гэта адзінае тэхнічнае пытанне, якое зараз абмяркоўваецца і абмяркоўваецца эфектыўна. Мы спадзяёмся, што хутка гэтае пытанне будзе вырашана".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

КРОПКІ НАД "І"

## Віталь Гарбузаў апярэдзіў шведскага караля

Уважлівыя чытачы "Народнай Волі", вядома ж, заўважылі ляп, які дапусціў наш пазаштатны карэспандэнт Віталь Гарбузаў у нататцы "Чаму Алексіевіч засталася па-за ўвагай БТ?" ("НВ", №96). Ён напісаў: *"Учора* (7 снежня. – **Рэд.**) *у Стакгольме адбылося ўручэнне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры..."* Калі быць дакладным, то трэба было сказаць: *"Учора ў Стакгольме адбылася лекцыя беларускай пісьменніцы Святланы Алексіевіч, звязаная з уручэннем ёй Нобелеўскай прэміі".* Асноўная афіцыйная цырымонія ўганаравання лаўрэатаў найвышэйшай прэміі заўсёды праходзіць 10 снежня.

Такім чынам, Віталь Гарбузаў апярэдзіў шведскага караля, які толькі ўчора вечарам асабіста павіншаваў тых, каму сёлета выпала шчасце атрымаць самую высокую прэмію ў свеце.

Прыносім прабачэнне за недагляд В.Гарбузава і ўсіх, хто меў дачыненне да "запуску" яго заметкі ў друк.

**Рэдакцыя.**

ФАКТ

## Зноў выбары...

Крайні тэрмін правядзення чарговых парламенцкіх выбараў – 11 верасня 2016 года, паведаміла старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына. У бюджэт ужо заяўлена сума на правядзенне парламенцкіх выбараў – 196 млрд рублёў.

НАДВОР'Е

## Даставайце парасоны

*У выхадныя сіноптыкі прагназуюць мокры снег і дождж.*

Сёння будзе воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў. Толькі ўдзень месцамі па паўночным захадзе прагназуюцца кароткачасовыя дождж і мокры снег. Уначы і зранку ў асобных раёнах магчымы туман, слабы галалёд, на дарогах захаваецца галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы складзе -4...+2°С. Днём чакаецца ад нуля да 6 градусаў цяпла.

У выхадныя ападкі з перавагай мокрага снегу. Месцамі слабы галалёд. Тэмпература паветра мінімальная ноччу -3...+2°С, максімальная днём будзе знаходзіцца ў межах ад -1°С па паўночным усходзе да +5°С па паўднёвым захадзе краіны.

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## Свой среди чужих

Вопрос дня: с какими мыслями Александр Лукашенко полетел на встречу с президентом Турции Реджепом Эрдоганом, которая может состояться на фоне откровенной антитурецкой истерии, развязанной в России?

Не подаст руки? Или, наоборот, подаст первым – радостно, с улыбкой?

Скажет «наша Турция»? Скажет что-то вроде «Переживаем, следим, готовы помочь, ведь это и наша Турция...»?

Раньше-то Лукашенко исключительно про Россию говорил «наша». Но сейчас и Украина – «наша», и даже Вьетнам... А вот что с Турцией? Интрига...

Скажете, я что-то перепутала. Александр Лукашенко после Вьетнама полетел не в Анкару, а в Ашхабад. Так передали официальные СМИ. Но дело в том, что туда же, к Бердымухамедову, прилетел и президент Турции Реджеп Эрдоган.

С Эрдоганом и Бердымухамедовым все понятно. На 13 декабря назначена церемония начала строительства газопровода ТАПИ (Туркменистан–Афганистан–Пакистан–Индия), который является ударом под дых обладательнице «газового оружия массового поражения» – России. Но вот что в этой антироссийской компании будет делать Лукашенко? А главное, как он будет в ней себя чувствовать?

Согласно официальной версии, Александр Лукашенко полетел в Туркменистан (он там уже с позавчерашнего дня), чтобы провести переговоры с Бердымухамедовым, подписать ряд двухсторонних документов, принять участие в торжественных мероприятиях, посвященных 20-летию туркменского нейтралитета. Однако недосказанность в официальной версии видна невооруженным глазом...

Впрочем, визит имеет вескую причину: у Беларуси с Туркменистаном подписан контракт на миллиард долларов – на строительство Гарлыкского горно-обогатительного комбината. Очень важный для нас контракт! Однако эта причина не убедительна, потому что растянутый во времени туркменский миллиард и российские миллиарды ежегодно в режиме «здесь и сейчас» – это все-таки деньги несопоставимые.

И тем не менее Лукашенко решил принять участие, прямо скажем, в «антироссийской вечеринке», организуемой Бердымухамедовым.

Смелый?.. Не боится попасть на российские телеканалы в обнимку со «злодеем» Эрдоганом, не боится информационной бомбардировки в свой адрес после этих кадров?

Хитрый? Будет предлагать посреднические услуги в урегулировании конфликта?

Непредусмотрительный? Захотел прогуляться по Ашхабаду, не подумав о последствиях?

Скоро все станет ясно, все будет расставлено по своим местам. Но лично мне хотелось бы, чтобы белорусский руководитель внимательно послушал доклады, посвященные собственно нейтралитету Туркменистана.

12 декабря 1995 года впервые в истории ООН при единодушной поддержке 185 государств, входящих на тот момент в ее состав, приняла Резолюцию «О постоянном нейтралитете Туркменистана». Эта страна не вступала ни в какие военизированные союзы – ни в ОДКБ, ни в НАТО. Даже в том, что касалось афганской войны (а у государств – общая граница), Туркменистан ничью сторону не занимал – ровные отношения поддерживал и с талибами, и с Северным альянсом. Точно так же, как после терактов в Нью-Йорке 11 сентября 2001 года Туркменистан не позволил, чтобы войска антитеррористической коалиции базировались на его территории, хотя с запросом на временное размещение авиабазы обращалась Германия.

Почему? Потому что нейтральный статус – это обязательство государства никаким образом не участвовать в войне, а в мирное время – отказ от участия в военных блоках. Этого принципа Туркменистан придерживается твердо и неукоснительно.

Напомню, что именно такой статус разработчики белорусской Конституции задумывали и для Беларуси. Однако Александру Лукашенко захотелось поиграть в «аты-баты», и с его подачи мы оказались членами военного блока Организации по коллективной безопасности (ОДКБ), сохранили на своей территории две российские военные базы, начали переговоры о размещении третьей (причем пока не известно, чем эти переговоры закончатся: Беларусь уже и не хочет иметь у себя «зеленых человечков», но Россия настаивает). И нам все время говорили, что все это делается в интересах безопасности.

Но ведь и Туркменистан не сквозь розовые очки смотрит на происходящее в мире. Однако делал и делает прямо противоположное.

По территории это 53-я страна в мире, площадь – почти полмиллиона квадратных километров. Для сравнения: Беларусь – 208 тысяч квадратных километров, то есть у них территория, которую надо защищать, почти в два раза больше нашей. К тому же это горячий, взрывоопасный, обожженный конфликтами регион. Только вот армия Туркменистана – 22 тысячи человек, а армия Беларуси, если верить открытым источникам, – 65 тысяч. Почему? Да потому, что тот, кто захочет напасть на Туркменистан, будет иметь дело с ООН. Если конкретнее – с войсками ООН. Таким образом, большая и мощная армия этой стране просто не нужна. Нужна такая, которая в мирное время может поддерживать порядок на границах, а в случае нападения – должна, как говорится, только день простоять да ночь продержаться. До того, как придет подмога...

А вот с гарантиями нашей безопасности, несмотря на ежегодные помпезные парады и появление Александра Лукашенко в облачении, очень похожем на форму генералиссимуса, все не просто плохо, а очень плохо. Потому что гарантом нашей безопасности является ... Россия. Та самая Россия, которая, ничтоже сумняшеся, оттяпала у Украины Крым, подожгла Донбасс, хотя и для Украины, как и для нас, вроде бы выступала гарантом суверенитета и безопасности. В общем, тот еще оказался союзничек! С такими друзьями враги действительно не нужны!..

А теперь смоделируем на себя украинский опыт. Если наш главный военный союзник вдруг нападет на Беларусь, решив, что «Полоцкие земли – это сакральная русская территория», мы к кому побежим за помощью?

Туркменистан побежит в ООН. А мы куда?..

Нам остается только в церковь бежать. Чтобы молиться. Больше некуда. Причем, заметьте, в Русскую православную церковь...

В общем, про нейтральный статус в Ашхабаде Александру Лукашенко надо слушать не просто внимательно, а очень внимательно. Хотя бы потому, что это и о безопасности, и о значительной экономии государственных средств, которые нам сегодня приходится тратить на оборону.

А вот что касается российских телеканалов, то их слушать – себе вредить. Пусть хоть слюной в злобе великорусского патриотизма захлебнутся. Нам-то что?..

ЛЯ ПРАХАДНОЙ

## «Часткова выплацілі заробак толькі за верасень»

*Амаль 70 тысяч беларусаў не атрымалі лістападаўскую зарплату. 405 арганізацый краіны агулам павінны сваім работнікам 241,4 млрд рублёў.*

Такую статыстыку апублікаваў Белстат.

Больш за ўсё даўгоў па зарплаце ў сельгаспрадпрыемстваў. Ад аб'ёму пратэрмінаванай запазычанасці на структуры АПК прыходзіцца 74%, на долю прамысловых прадпрыемстваў – 16%.

Рэгулярна ў "чорны спіс" даўжнікоў па зарплаце трапляе Гарадоцкі льнозавод Віцебскай вобласці.

– *Мы і самі хацелі б ведаць, калі атрымаем зарплату,* – кажуць на прадпрыемстве. – *Часткова з намі разлічыліся толькі за верасень. Грошай няма, таму што скарочана вытворчасць: зачынена лінія па перапрацоўцы лёну, таму што выпуск валакна не прыносіць прыбыткаў. Дырэктар стараецца, вось і сёння ў Віцебск паехаў, але ўсё пакуль беспасяхова... Нам нават прэзідэнцкія выбары не дапамаглі...*

Дарэчы, у кастрычніку, калі ў Беларусі прайшлі прэзідэнцкія выбары, перад галасаваннем запазычанасць па зарплаце назіралася толькі ў 13 арганізацыях перад 1,2 тыс. работнікаў. Агульная сума доўгу складала 27,9 млрд беларускіх рублёў. Такім чынам, даўгі працадаўцаў перад наёмнымі работнікамі за два месяцы пасля прэзідэнцкіх выбараў выраслі амаль у 10 разоў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

БЫЛО СКАЗАНА...

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА

*(падчас наведвання Мазырскага раёна, 12 красавіка 2012 г.):*



– *Трэба разбірацца з кіраўнікамі прадпрыемстваў, якія сёння не могуць плаціць заработную плату. Трэба імі займацца, каб мне потым не давялося. Хачу папярэдзіць, што ніхто з іх потым у краіне не знойдзе работу ў цёплым крэсле. Кіраўнік, які вызвалены ад пасады, не мае права працаваць кіраўніком. Дай бог, каб па спецыяльнасці. Калі не – мятлу ў рукі і месці вуліцы.*

**P.S.** Падобна на тое, што надыходзяць часы, калі шмат каму з кіраўнікоў давядзецца перакваліфікавацца ў дворнікі – браць "мятлу ў рукі і месці вуліцы".

ПАРАЎНАЕМ!




## Якія заробкі ў Мытным саюзе?

З пачатку года дэвальвацыя з'ела зарплаты не толькі беларусаў, але і расіян і казахаў – нашых саюзнікаў па Мытным саюзе. Прычым у Казахстане пасля жнівеньскай дэвальвацыі заробкі ў доларах адносна снежня 2014 года ўпалі амаль у 2 разы.

Мы сабралі дадзеныя па сярэднямесячных заробках нацыянальных статыстычных ведамстваў трох краін і перавялі гэтыя сумы ў долары па афіцыйным курсе Нацбанка кожнай з краін. Атрымаліся такія паказчыкі *(гл. дыяграму ўверсе)*

